# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 49 (1543) ГОД XXX БЕЛАСТОК 8 СНЕЖНЯ 1985 г. ЦАНА 10 зл.

## ВАРШАЎСКІЯ „АТРАСІНЫ"

Мабыць адна з самых удалых імпрэзаў, якія адбываюцца ў беларускім асяроддзі Варшавы, — гэта атрасіны студэнтаў-беларусаў першага курса. У суботу, 9 гістапада г.г., ужо ад поўдня ў інтэрнаце на вул. Смычковай панаваў рух. У клуб „Міні-2" музыкі зносілі сваю па-сучаснаму шматлікую ды апутаную кіламетрамі праводкі „тэхніку". Грамадка дзяўчат з найвялікшым інстынктам добрах гаспадыняў завіхалася пры нарытоўцы смакавітых бутэрбродаў. Іншыя дэкарацыямі пераўтваралі залу ў світанне з цяжкімі цёмнымі хмарамі над галовамі, бо ж нялёгкія і неспакойныя гады чакаюць тых, якіх сёння будуць „атрасаць". Наверсе, у жылых пакоях, збіраліся сябры, і іхныя гутаркі не-не ды і сыходзілі на справы беларускага студэнцкага руху ў Польшчы.

З размовы з Пятром Багроўскім — старшынёю Варшаўскай рады культуры студэнтаў беларускай нацыянальнасці Саюза польскіх студэнтаў і Сяргеем Мартыновічам — членам Прэзідыума Агульнапольскай рады культуры студэнтаў няпольскай нацыянальнасці Саюза польскіх студэнтаў вынікае, што студэнты-беларусы патрапяць ажыццяўляць добрыя справы.

Перш за ўсё яны не парываюць сувязей з роднай мовай,

(Працяг на стар 6)



Азлоба вакальна-музычнага калектыву Варшаўскага аддзела БГКТ — Галіна Кавальчук.

## ЛЮДЗІ БГКТ

## ЦЯЖКІ ХЛЕБ

**Сёння гутарым са старшынёю Галоўнай Рэвізійнай Камісіі БГКТ, былым сакратаром ГП у 1960-1969 гадах, доктарам геаграфіі Уладзімірам Юзвюком з нагоды яго шасцідзесяцігоддзя. Ці ўсё гэта праўда?**

— Так, нарадзіўся я ў 1925 годзе ў Трысцянцы — напішы хоць раз правідлова назву вёскі, гэта значыць так, як яе называе насельніцтва і наваколле: Трысцянка.

**— Як здароўе?**

Нармальна. Найбольш хвараблiва пераўжываю акуляры на носе. Вяду лекцыі пры карце. Зблізку не бачу дробязі. Надзяваю акуляры, а хопіць толькі павярнуць галаву на зал — не бачу слухачоў. І так забаўляюся ўжо каля дзесяці гадоў.

**— А сям'я?**

— Жонка ўвесь час працуе на адным месцы, апошні год прыхварэла. Старэйшы сын закончыў Медакадэмію, ажаніўся і працуе лекарам у Беластоку. Вучыўся ён добра, але ва ўсім іншым — гэта ўжо не бацька. А малодшы — аўтамеханік, зараз у войску.

**— Чым актуальна займаешся?**

— Амаль трынаццаць год працую вузаўскім настаўнікам у Інстытуце ўдасканальвання настаўнікаў у Беластоку. Асноўныя заняткі — лекцыі па геаграфіі і методыцы (апошнюю я не надта люблю, але маем у школах вельмі многа некваліфікаваных настаўнікаў па агульнаадукацыйных ліцэях і вузах, трэба іх педагагізаваць). Адначасова выконваю абавязкі кіраўніка Аддзялення агульнаадукацыйных прадметаў, у якім працуе каля 85 асоб, у тым ліку 65 настаўнікаў-методыкаў на Беластоцкае, Ломжынскае і Сувальскае ваяводствы. Астатнія гэта 14 дактароў, выкладчыкі і асістэнты. Вось менавіта мяне кіраўніцтва найбольш абцяжвае. Працаваць люблю шчыра, без панукавання начальства.

Папярэдні працоўны шлях, бадай, вядомы: шэсць гадоў настаўнічаў у Нарве, Трысцянцы і Бельску Падляшскім, пяць гадоў вучыўся ў Беларускім уні-

(Працяг на стар. 4)

## З Прэпарцёрскіх запісак

## НА ХУТАРЫ ЗА ЛЕСАМ

Восенню тут асабліва прыгожа. Кнышынская пушча аж гарыць багаццем колераў. І дзе не павярнуцца, усюды лес і лес — вялікі, дрымучы, таямнічы лес, хаця гэта ўжо скромны астатак ад колішняй менавіта Кнышынскай пушчы.

І сярод гэтага лесу, далёка ад праязных дарог знаходзіцца прасторная паляна. Гэта хутар Хведара Паплаўскага, — лаўрэата мінулагодняга конкурсу „Залатая веха".

Я сам сюды ніколі не трапіў бы, бо ехаць трэба крутымі ляснымі дарогамі, якія адгаліняюцца ў розныя бакі, і можна, замест на хутар да Паплаўскага, завандраваць недзе ў бязвыхадную дрыгву. Завезлі мяне туды прадстаўнікі Ваяводскага ўпраўлення сельскагаспадарчымі капіталаўкладаннямі, установы, якая з'яўляецца галоўным арганізатарам штогадовых конкурсаў „Залатая веха". Гэтыя людзі былі частымі госцьмі на хутарах у Паплаўскіх і шафёр іх гнаў машыну цераз лес, як па Першамайскай алеі ў Беластоку. Тармазіў толькі тады, калі трапляліся глыбокія калдобіны, залітыя вадой і вязкім балотам.

*

Хутар Хведара Паплаўскага ў адміністрацыйных адносінах прыналежыць да вёскі Боркі ў гміне Гарадок. Гэта той паўночна-ўсходні куток Гарадоцкай гміны, у якім расселіся вёскі Залукі, Радунін і Навасёлкі, дзе па-суседску плыве рака Супрасль. І да пасёлка Супрасль тут шмат бліжэй з Боркаў, чымсьці ў Гарадок, але ў Супрасль праезду няма, дарогу бароняць рэчкі Супрасль і Сакалда, а таксама дрымучы лес, які восенню так ярка гарыць на фоне заўжды зялёных паднебных соснаў і елак.

*

Першае, што ўбачыў я сярод прасторнай лясной паляны, гэта была аграмадная белакаменная абора, а побач, за старэнькай хаткай, на хрыбце таксама старога хлява красавалася ўжо апусцелае ў гэтым годзе, саліднае буслінае гняздо.

„Шчаслівы гаспадар, у каго буслы водзяцца!" — сцвердзіў я ў думках.

А гаспадар, Хведар Паплаўскі, чалавек невысокага росту, з моцна спрацаванымі рукамі, усё яшчэ загарэлы аж да бронзавага колеру, сапраўды весела і бестурботна ўжо вітаў прадстаўнікоў Беластоцкага „Вузіру", як сваіх самых лепшых сяброў. Адразу відаць было, што сустракае іх тут ужо не першы раз. Інжынер Тадэуш Вышкоўскі быў у яго найлепшым дарадчыкам у ажыццяўленні гэтых вялікіх капіталаўкладанняў па сучаснаму абсталяванню жывёлагадоўчай базы на хутары за лесам, а заатэхнік Анна Гаўрылюк вядзе тут пастаянны нагляд за правідловым адкормам і малочнасцю дойных кароў, якія цяпер

(Працяг на стар. 4)

ў апошнім пяцігоддзі каля паўтысячы гадзін. Сярод актыву ТППР, а таксама настаўнікаў мае даклады выклікалі вялікае зацікаўленне. Паводле дыскусіі можна меркаваць, што наша грамадскасць была і ёсць у гэтых пытаннях недаінфармаваная, чамусьці сродкі масавага пераказу аднабакова інфармуюць толькі аб дастаўках з Савецкага Саюза. Неабходна паказваць экспарт і імпарт, які замыкаецца 35-40 прац. замежнага тавараабароту Польшчы. Гэта ж імпануючы паказчык!

У БГКТ таксама нешта раблю: пасяджэнні Галоўнай рэвізійнай камісіі і Прэзідыума ГП, у выдавецкай дзейнасці, але як лектар — мала выкарыстаны.

**— Што з перспектывы свайго вопыту ты хацеў бы падказаць сённяшняй генерацыі дзеячоў таварыства?**

— Не думаю, каб дзеячы сучасныя ва ўсім былі іншыя ад дзеячоў майго перыяду. Сённяшняя генерацыя больш адукаваная і можа крыху менш ахвярная ў сваёй масе. Але гэта наша будучыня, якой трэба прысвячаць максімальную ўвагу.

Што падказаць дзеячам таварыства? Каб добра працавалі ў сваіх установах, былі сумленнымі, каб вакол сябе тварылі шчырую інтэрнацыянальную атмасферу, папулярызавалі ў сваім асяроддзі дзейнасць таварыства, „Ніву“. Зычлівыя нам сябры-палякі ўспрымуць усё гэта з зацікаўленнем, а ацэнка ворагаў нас не цікавіць. Я лічу за вялікае асабістае няшчасце кожнага чалавека, калі ён трапіць у вір канспірацыі невядома чаму і супроць каго. Тварэнне вакол атмасферы тайны, нейкай нелегальнасці, падазрэння ў варожасці да краіны проста шкодна грамадска і не ведаю, чаму яна ўладамі не дэмаскуецца. А можна было б яе змяніць на мясцовы пралетарскі патрыятызм, у якім знайшлося б раўнапраўнае месца і на веліч суседзяў-палякаў і на гордасць нашай нацыянальнай меншасці крыштальна чыстага беларускага народу.

Гутарыў **А. Барскі**

# ДРУЖБА ЯДНАЕ

(Працяг са стар. 3)

ры можна было аглянуць выстаўку дасягненняў суседніх рэспублік СССР: Беларусі і Літвы.

Быў наладжаны кірмаш савецкага друку, які выклікаў вялікае зацікаўленне. Была нагода купіць кніжкі з творамі рускай і савецкай літаратуры, папулярна-навуковую літаратуру і кніжкі для дзяцей. Шкада, што не было кніжак на беларускай мове. Можна было пасмакаваць прадукты з кааператываў спажывецкай вытворчасці.

У вялікай зале прайшоў канцэрт, прысвечаны Кастрычніку. Пачаўся „Паклонам Рускай рэвалюцыі“ — дэкламацыяй ліцэіста Аляксандра Барысюка. Калі адкрылася заслона, на памастацку ўпрыгожанай сцэне выступіў вакальна-інструментальны калектыў „997“ з раённага Аддзела ўнутраных спраў у Гайнаўцы. Салістамі былі добра нам знаёмыя Мар'ёля Пшыходская і Дзмітры Тыханюк. Элегантныя парадныя мундзіры выступаючых дапаўнялі ўзнёсласць спяваемых імі песень пра Айчыну, пра змаганні і перамогу. Не заўсёды было так спакойна на нашай зямлі, і балючая памяць застаецца да сёння. Паўшыя героі вучаць нас любві да народнай краіны. Публіка бурнымі воплескамі ўспрымала маладзёжны ансамбль. У наступнай дэкламацыі (Анны Швед — працаўніцы мясцовага Дома культуры) гаварылася, што мірнае жыццё патрэбна дзеля таго, каб раслі і гулялі на зямлі дзеці ўсіх народаў. Ці ж можна знішчыць іх шчасце вайной? На сцэне з'явілася расспяваная група дзяўчынак і хлопцаў з Падставовай школы № 2 у Гайнаўцы. Дзеці спявалі і гулялі, дорачы дарослым усмешку і вясёласць. Заявілі, што хочуць вучыцца і працаваць на хвалу краіны. Пераказалі прывітанні сваім сябрам-піянерам у Краіне Саветаў. Падзякавалі за шчаслівыя гады свайго дзяцінства. Гледачы былі ўзрушаны да слёз і ўзнагародзілі цёплымі воплескамі канцэрт дзіцячай групы. Пасля выступілі дэкламатары з тэкстамі падзякі за дапамогу, што прыходзіць да нас з Усходу. У доказ удзячнасці з канцэртам выступіў беларускі хор Гайнаўскага дома культуры. Спачатку спяваў папулярныя рускія песні пра мужнасць савецкага народа ў ваенны час і пра красу мірнага жыцця. Пасля паняслісяпаляцелі чароўныя беларускія песні. Гайнаўскія „самаграі“ чарговы раз прадэманстравалі рост свайго майстэрства пад мастацкім кіраўніцтвам Аляксандра Лукашука.

Багаты канцэрт Гайнаўскага дома культуры быў падрыхтаваны ўласнымі сіламі. Выступалі самадзейнікі, але выкананне было на высокім узроўні. Вялікая ў гэтым заслуга працаўнікоў дома культуры на чале з дырэктарам Мікалаем Бушко. Канцэрт закончыўся сумесным выступленнем усіх выступаючых з песняй-заклікам „Хай заўжды будзе сонца!“ Да іх са спевам і бурнымі воплескамі далучылася публіка.

Народнае святкаванне польска-савецкай дружбы працягвалася вечарам каля вогнішча ў Белавежскай пушчы. Надалей сустрэча праходзіла ў сардэчнай і дружнай атмасферы. Адзін з савецкіх гасцей проста сцвердзіў: „Я как дома побывал“.

Неабходна падкрэсліць добрую арганізацыю такога багатага мерапрыемства. Словы падзякі і пахвалы належацца дзеячам ТППР з Ваяводскага праўлення Саюза сялян і сельскагаспадарчых арганізацый у Беластоку: Мікалаю Андраюку Пятру Мікалаевічу, Аляксандры Маслоўскай, Барбары Куклінскай, Яніне Дудзюк і іншым.

**Ян Мордань**

(Працяг са стар. 3)

## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ?

назад блытаніну яшчэ горшую. Беларусаў каторы ўжо раз моцна паменшала, калі выявілася, што прабыванне ў царкве не перашкаджае гаварыць у ёй папольску ды адчуваць сябе палякам. Адназначнасць: праваслаўны — беларус пахілілася ды растапілася, бы тая свечка ў тлуме перад іконаю. Гэта дрэнна ўплыло на наша самаадчуванне, з'явіўся комплекс „апошняга магіканіна“, хоць выраслі мы, за гэты час, калі можна гэтак суцяшаць сябе. Беларусам надалей дэкларагаўся той, хто прынамсі трохі хліснуў беларускай культуры, патрымаў у руках родную кніжку, а чытачы „Нівы“ дык беларусы яны над беларусамі! І тут дакранаемся мы да сутнасці нацыі, да яе культурнай прыроды. Не мог быць беларусам, мог быць адно „тутэйшым“ колішні бедны ды зацюканы селянін, які „ні чытаці, ні пісаці“. Разам з асветаю адчыніўся ж доступ кожнаму да культуры наогул, і да беларусчыны ў прыватнасці. Ці ўсім ён адчыніўся, да гэтай беларусчыны? Вядома, што не. Калі б гісторыя была такая просценькая ды справядлівенькая, як на наш даверлівы розум, то сёння мы не плакалі б, што няма каму перадаць спадчыну сваю, бо дзеці нашы павырасталі на небеларусаў; небеларускай яны культуры, нораваў і поглядаў, знацьведаць не хочуць усяго, што наша, кроўнае. І па меры таго, як прыбывае нам унукаў і сем'і робяцца тлумнейшымі, дык мы са сваёй беларусчынай у іх пераўтвараемся ў нейкіх чужынцаў.

Даступнасць беларускага. Не гаворачы нават пра тое, што ўсё беларускае зусім не ляжала ў абсягу выцягнутае рукі, каб дабрацца да таго, трэба было намаганняў. Часамі даволі пакутлівых. А цалкам без сэнсу яно ўсім тым, у каго не з'явіўся хаця б смак „на сваё“, — беларуская культура ўвесь час была нечым неабавязковым, нечым такім, пра што часта чулася злоснае або здзіўленае пытанне: А НАШТО ЯНА НАМ? Хлеба яна табе дасць ці шчасце ў жыцці?! Наадварот, надалей заставацца беларусам, сабою, асабліва ва ўмовах змешанага насельніцтва, абазначала быць у чымсьці меншым.

Таму беларусы духам і мовай трымаюцца толькі ў тых ваколіцах, дзе няма патрэбы ў тым, каб прыкідвацца кімсьці іншым, пералазіць з тае нашай меншасці ў польскую большасць, дабіваючыся сваіх надзённых справаў (у вёсках з праваслаўным насельніцтвам перш за ўсё). А пачынаючы ад мястэчак — ад усіх тых Кляшчэляў, Мілейчыцаў, Нарваў, Міхаловаў, Крынкаў, — дзе быццё беларускім чалавекам не ёсць запростае, натуральнае — беларускае відаць толькі па тых, каму беларуская культура, слова беларускае **і м п а н у е.** **Толькі па тых! Іншыя ж утвараюць, нечуваную раней, грамадскую групу т.зв. польскамоўных беларусаў, людзей добрых і зычлівых, працавітых і акуратных, але без пачуцця духоўнага спадкаемства, wydziedziczonych jak gdyby.**

**Аляксандр Анташэвіч**

дара Паплаўскага, які рашыў даказаць сабе, сваім дочкам, зяцю і ўнукам, што далёка ад праязных дарог, ад шумлівых гарадоў таксама можна жыць шчасліва і багата, вельмі багата! Трэба толькі адважыцца на здзяйсненні вялікага маштаба.

Хведар Паплаўскі нарадзіўся ў 1926 годзе. Па бацьку атрымаў 12-гектаровую гаспадарку, якая нічым асаблівым не адрознівaецца ад іншых гаспадарак у гэтым наваколлі. Цяпер за Хведарам Паплаўскім лічыцца амаль 36 гектараў зямельных угоддзяў. Гаспадарку сваю павялічваў ён за кошт дзяржаўнага фонду зямлі. Яна поўнасцю механізавана. Пераканаўся я ў гэтым, пабываўшы разам з гаспадаром у яго сучасна абсталяванай аборы. Яна 12x30 метраў. Тут 18 адсекаў для кароў, 12 месц для букатаў (мясных бычкоў), 2 групавыя адсекі для цялят і выдзеленае месца для каровіных родаў. Пасярэдзіне прасторны калідор, па якім трактарам свабодна можна праехаць, каб адразу запраўляць кармы ў бетонныя жолабы. Вада падаецца з уласнага водаправода, паенне аўтаматычнае, даенне механізаванае — даяркай „Альфа-Ляваль“, з падвойнай конаўкай...

— З гэтай аборы, — інфармуе Анна Гаўрылюк, — гаспадар пастаўляе кожны дзень у сярэднім 250-260 літраў малака.



Хведар Паплаўскі — выдатны гаспадар, жывёлавод.

*

У кожнага тутэйшага селяніна былі аднолькавыя шанцы. Дзяржаўнага фонду зямлі астаецца тут яшчэ многа. Можна яго браць колькі хочаш. Але толькі Хведар Паплаўскі адважыўся выкарыстаць гэтыя шанцы, каб свой хутар за лесам пераўтварыць у астравок сучаснай высокатаварнай гаспадаркі. Не пабаяўся дзеля гэтага пазычыць у сельскагаспадарчым банку вялікія мільёны дзяржаўных залатовак. І скарыстаў на гэтым ды яшчэ як! Калі вынікі яго гаспадарчай дзейнасці будуць надалей такія высокія, як цяпер (а чаму ж не мелі б быць), дык банк даруе яму да палавіны пазыкі...

Што ж, адважным як кажуць, свет прыналежыць, а добрым гаспадаром можна быць і далёка ад праязных дарог. Спадзяюся, што гаспадарка Хведара Паплаўскага не астанецца без наследнікаў. І ўнукі яе з рук не выпусцяць.

**Віктар Рудчык**
**Фота аўтара**

# БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

У часе паненскага вечара ў многіх беларускіх вёсках Беласточчыны меў месца абрад, званы „купаваннем кашулі“. Галоўнымі героямі гэтага абраду былі: малады, яго маршалак і дружкі маладой. У гэтым мерапрыемстве не прымала непасрэднага ўдзелу маладая, хаця і была назіральніцай.

Перад уваходам у пакой маладога і яго маршалка, дружкі выводзілі маладую на кухню або ў камору і чаргова самі выходзілі да гасцей і падаваліся за маладую. Калі малады і яго маршалак не ўспрымалі дзяўчыну як маладую, тады дзяўчына вяла доўгую размову, даказваючы, што яна сапраўдная маладая, спасылаючыся пры гэтым на розныя, у тым ліку і інтымныя „факты“, звязаныя з папярэднімі іх сустрэчамі. Калі малады ў далейшым упіраўся пры сваім, сабраныя спявалі песні, у якіх высмейваліся яго вочы або яго памяць. Вось прыклад некалькіх куплетаў з раёна Бельска.

Молоды спав,
Очы заспав,
Молодой нэ познав,
Трэба было уставаті
Очы промываті,
Коб молодую познаті.

Не прынятая маладым дружка, выходзячы з пакою, спявала:

Молоды мною згардів,
Дай Божэ, коб на лето
Мэдвэді водів.

Пасля многіх няўданых спроб дружак прадстаўніца ў якасці маладой выводзілі яны ў канцы канцоў сапраўдную маладую, якую малады браў за руку і вёў за стол.

Дружкі тут спявалі песню:

Попілі піво,
Попілі квас,
Побралі хорошых,
Побэрут і нас.

Пасля гэтага наступаў апошні акорд паненскага вечара. Было ім уручэнне маладому кашулі і кальсонаў, падрыхтаваных маладою. Яшчэ ў трыццатыя гады XX ст. гэтыя прадметы найчасцей выконваліся з саматканага кужалю. Пасля вайны, асабліва багацейшыя гаспадары, стараліся ўжо купляць фабрычнае палатно. Ва ўсіх вёсках абавязваў акрэслены рытуал пераказвання маршалку маладога (найчасцей маршалак, а не малады прымаў падарунак) кашулі і кальсонаў. У ніякім выпадку не належала перадаваць гэтыя прадметы адразу без торгу і без выкупу. Як правіла, гэтаму доўгатрываламу торгу спадарожнічалі гумарыстычныя сітуацыі. Для паглыблення камізму, дружкі „упрыгожвалі“ кальсоны каляровымі стужкамі і вялікімі драўлянымі гузікамі. Нярэдка сшывалі калошыны кальсонаў ніткамі. Наогул такія практыкі не датычылі кашулі, якую шанавалі з увагі на тое, што мусіла яна быць у добрым стане, бо яе малады апранаў на

(Працяг на стар. 8)

# ВАРШАЎСКІЯ „АТРАСІНЫ“

(Працяг са стар. 1)



Адкрылі імпрэзу і заражалі публіку весялосцю А. Кандрацюк і В. Сельвясюк.

культурай, традыцый — на ўсіх сяброўскіх спатканнях пануе ў асноўным беларуская мова. У клубе Варшаўскага аддзела БГКТ на вул. Сенатарскай 8 даволі часта праводзяцца гутаркі і дыскусіі па гісторыі беларускага народа, яго мове, літаратуры. І так, ужо ў лістападзе пачаўся новы цыкл гутарак пра мінулае Беларусі. Таксама выдатна спрыяюць азнаямленню з роднай старонкай, яе людзьмі, сённяшнім і мінулым, помнікамі архітэктуры ўсё часцейшыя студэнцкія рэйды „Бацькаўшчына“ па Беласточчыне. Між іншым, у канцы лістапада збіраўся чарговы такі рэйд. Цяжка пераацаніць пазнавальныя, выхаваўчыя, адпачынкавыя вартасці гэтых імпрэзаў! Юнакі і дзяўчаты — будучая наша інтэлігенцыя — адкрываюць красу роднага краю, бачаць яго патрэбы і свае перспектывы ў будучай сваёй працы для яго дабра. У гэтым пераканаліся і ўдзельнікі рэйдаў, і мы, чытаючы іхныя ўражанні ў „Ніве“.

Пасля выхаду двух нумараў „Сустрэчаў“ ідзе падрыхтоўка да выдання трэцяга іх нумара. Хоць цяжкасці з гэтым аграмадныя, бо выдаванне часопіса — надта ж дарагая і складаная справа, але маладыя нашыя калегі не апускаюць рук. Адначасова нарадзілася ініцыятыва змяшчаць раз у месяц у „Ніве“ спецыяльную студэнцкую старонку, матэрыялы ў якую будуць рыхтаваць беларускія студэнты. Нашы маладыя сябры падумваюць таксама пра выданне „Навуковых сшыткаў“ з матэрыяламі са студэнцкіх навуковых сесій, семінараў, сустрэчаў з вучонымі. Нельга не згануць і пра іхны намер арганізаваць спецыяльны навуковы ла-



Таўканіцай з кіслым малаком карміў першакурснікаў сам старшыня „экзаменацыйнай камісіі“ Б. Сіманенка. Ці смакавала?

гер дзеля пошукаў і вывучэння беларусікаў у Кракаве. Нараджаюцца і іншыя цікавыя задумы і ініцыятывы, як, напрыклад, выданне „Беларускага спеўніка“, у якім былі б змешчаны самыя папулярныя беларускія песні.

Беларускія студэнты з варшаўскіх вышэйшых школ патрапяць і сур'ёзна папрацаваць і культурна ды весела адпачыць. Якраз „Атрасіны“ і пераканалі мяне ў гэтым. Зала запоўнілася да берагоў. Гульня ў экзамены з камісіяй ды напалову жартоўнымі, а напалову сур'ёзнымі заданнямі мне вельмі спадабалася, бо яна патрабавала валодання беларускай мовай, ведання сваіх беларускіх культурных традыцый, вучыла не саромецца сялянскага ці рабочага паходжання. А ўсю імпрэзу ўмела вялі і сагравалі тактоўнымі жартамі студэнты другога курса Варшаўскага універсітэта — Анна Кандрацюк з беларускай філалогіі і Валянцін Сельвясюк з гісторыі мастацтва. Сярод трыццаціасабовай грамады першакурснікаў, якія наважыліся „прыступіць да экзаменаў“ надта ж патрабавальная „экзаменацыйная камісія“ ў складзе Ю. Ляшчынскі, А. Петручук і Б. Сіманенка ўсё ж ацаніла станоўча ўменні здаючых, а пару: Алю Маркевіч з Галоўнай



Публіка ўспрымала адказы першакурснікаў па-рознаму.




# ПАД ТВАЮ АБАРОНУ

Загарэўся будынак раённага аддзялення Народнага камісарыята ўнутраных спраў. Нягледзячы на ўсё нарастаючы ды пастаянны артылерыйскі абстрэл мястэчка, людзі кінуліся гасіць агонь.

— Адставіць! Не гасіць! — загадаў Дзмітры Макараў. — Не трэба, хай дагарае дашчэнту разам з дакументамі, якія там яшчэ засталіся, — паясніў ён таварышам, якія неяк дзіўна глядзелі на свайго начальніка. Шмат пазней, ужо ў Брэсце, Дзмітры Макараў мне яшчэ дадаў: — Некаторыя дакументы мы ўжо паспелі пагрузіць на прыдзеленую нам машыну і адаслаць на ўсход. Але і з таго, што яшчэ асталося ў шафах нашага аддзялення, акупанты маглі б мець вялікую карысць І таму я рашыў, што лепш будзе, калі ўсё пойдзе з дымам.

Каля 11-ай гадзіны зранку немцы спынілі свой артылерыйскі абстрэл Высокага. Дзмітры Макараў загадаў сваім чэкістам праверыць парадак у горадзе і ва ўстановах.

— Асабліва пільна сачыце за варожымі шпіёнамі і дыверсантамі! Я буду ў будынку райкома, — паясніў. З гэтага будынка яшчэ раз ён спрабаваў спалучыцца па тэлефоне са сваім начальствам у Брэсце і Мінску. Проста баяўся, каб самастойнымі рашэннямі не натварыць чагосьці. Ён жа сам найлепш ведаў, што для гэтага многа не трэба. Сувязі, аднак, не было. Маўчаў нават прамы тэлефон, якім карысталіся толькі ў выключных выпадках. Рашыў тады, што неадкладна трэба эвакуіраваць з мястэчка сем'і важнейшых палітычных і савецкіх працаўнікоў, асабліва прыезджых, якія своечасова былі накіраваны ў прыгранічную зону, каб устанаўляць і замацоўваць тут Савецкую ўладу. Яго прапанову падтрымалі іншыя таварышы, якія кіравалі ў Высокім палітычным і грамадскім жыццём. План эвакуацыі быў распрацаваны загадзя і пачалі яго ажыццяўляць.

Прыбегла жонка, Марыя Аляксандраўна.

— Дзіма, мяне хочуць вывезці з Высокага! Ратуй! — загаласіла ўстрывожана.

— Правільна, — адказаў ёй Дзмітры Макараў. — Гэта па майму загаду. І ты не супраціўляйся!

— Без цябе?! — І яна кінулася яму на грудзі. — Не, без цябе нікуды я не паеду! — заявіла Марыя Аляксандраўна, глытаючы слёзы.

— Маруся, ты ж жонка начальніка, чэкіста, табе нельга так, парадак мусіць быць! — ён пасаромеўся гэтай публічнай чуллівасці ўласнай жонкі. — Ну супакойся, вазьмі сябе ў рукі! — адсунуўшы яе крыху ад сябе, паглядзеў ёй у заплаканыя во-



Пераможцы варшаўскіх „Атрасін-85“: А. Маркевіч і А. Кагачэўскі.

школы планавання і статыстыкі і Аляксандра Кагачэўскага з Акадэміі фізічнага выхавання вылучыла прызнаннем ім ганаровага звання „міс“ і „містэра“ „Атрасін-85“.

Гэты лёгкі ўступ зусім не пашкодзіў усім вельмі сур'ёзна прыняць акт „Прысягі беларускага студэнта“. У ім, між іншым, было сказана: „Свядомы сваіх карэнняў і магчымасцяў, якія дае мне вучоба ў вышэйшай навучальнай установе, прысягаю: здабываць веды і выкарыстоўваць іх для дабра беларускага народа; пазнаваць і шанаваць мінулае нашага народа; актыўна ўключацца ў беларускі студэнцкі рух і ніколі сваімі паводзінамі не зганьбаваць добрага імя беларускага студэнта“. Не толькі першакурснікам, якія складалі гэтую ўрачыстую прысягу, але і ўсім прысутным глыбока ў душу запалі гэтыя важкія словы, умацавалі жаданне актыўнага дзеяння для дабра ўсяго роднага.

Пасля хвіліны задуменнасці пачаліся вясёлыя атрасіны першакурснікаў. „Трэслі“ іх самыя аўтарытэтныя, заслужаныя і актыўныя ў беларускім студэнцкім руху сябры.

Пасля гэтага своеасаблівага адпачынковага перапынку з цікавай прамовай да прысутных выступіў Юры Ляшчынскі — студэнт чацвёртага курса геаграфічнага факультэта Варшаўскага універсітэта, дзея. беларускага студэнцкага руху ў Варшаве. Ён прыгадаў асноўныя факты з мінулага беларускага адраджэнскага руху, адзначыў яго глыбока народны і прагрэсіўны характар, заклікаў да больш актыўнага ўдзелу ў дзейнасці для дабра беларускага народа, на гаспадарчай, навуковай, культурнай ніве.

Вялікай неспадзяванкай для мяне быў дасканалы вакальна-інструментальны калектыў Варшаўскага аддзела БГКТ, „прадукцыя“ якога потым запаліла ўсіх. Калектыў складаюць Б. Валькевіч, Р. Карпінскі і А. Крушынскі, а ўзначальвае яго С. Бархвіц. Высокае выканаўчае майстэрства, багаты рэпертуар — вось што ў некалькіх словах можна сказаць пра іхнюю ігру. Ага, дадаць неабходна, што ў іх нядрэнныя інструменты і дапаможная апаратура, што сёння на эстрадзе таксама вельмі важнае. А мне здаецца, што найважнейшая ў калектыве — гэта салістка Г. Кавальчук, якая здобіць яго і красой і голасам.



З палымяным заклікам ахвярна працаваць на роднай ніве звярнуўся ў прамове Ю. Ляшчынскі.

Беларускія „Атрасіны-85“ у Варшаве працягваліся далёка за поўнач.

**М. Гайдук**
Фота аўтара.



Трэслі першакурснікаў самыя вядомыя ды самыя заслужаныя для беларускага студэнцкага руху ў Варшаве дзеячы.

чы. — Бачыш, тут усё гарыць, а да граніцы ледзь рукой падаць...

Марыя Аляксандраўна, не зважаючы на прысутнасць супрацоўнікаў яе мужа, зноў схапіла яго рукамі за шыю і моцна ўпілася ў яго вусны.

— Ну, добра, добра... — гаварыла ў перадышках між пацалункамі. На гэты раз і ён, Дзмітры Матвеевіч, не бараніўся таксама перад жончынымі пяшчотамі. Абое прагна, быццам на запас, пілі з гэтай крыніцы ўзаемнага шчасця, як бы не мелі надзеі ўжо болей да яе дакрануцца...

— І так праходзіў гэты трывожны нядзельны дзень, 22 чэрвеня 1941 года, — расказвае мне Дзмітры Матвеевіч. — Адправіўшы жонку, я зноў вярнуўся да сваіх абавязкаў, хаця ніякіх абавязкаў ужо ў мяне не было. Проста па прывычцы клапаціўся я аб спакоі і парадку на даверанай мне тэрыторыі. Што, аднак, рабіць мне канкрэтна як начальніку органаў дзяржаўнай бяспекі ў Высокаўскім раёне, гэтага, шчыра кажучы, я не ведаў. Загады не паступалі і я зразумеў, што іх ужо зусім не будзе. То ж наш будынак згарэў, а з ім разам пераўтварыўся ў попел наш вузел сувязі.

Хтосьці запрапанаваў, каб недзе штосьці перакусіць. Дзмітры Матвеевіч згадзіўся. Ад світання ён яшчэ нічога сёння не еў і не піў. Забег хутчэй у сваю пустую хату, узяў спіртное, захапіў хлеб і каўбасу, гэтага жонка чамусьці не ўзяла з сабою. „Бачыш, — падумаў, — якая яна дбайная, мне пакінула“. І пайшоў да сваіх таварышаў. Яны таксама шмат чаго прызапасілі. Рашылі, што найлепш будзе, калі з гэтым абедам раскладуцца яны над рэчкаю, над Пульвай, якая перасякала Высокае, каб не на вачах у перапалоханых людзей...

Выпілі моўчкі, без прывычных тостаў і характэрных слбroўскіх шаржаў. Другой чаргі распіць ужо не паспелі. Нейкі чалавек паведаміў ім, што нямецкія танкі набліжаюцца ўжо да мястэчка. У першую хвіліну Дзмітры Макараў не паверыў, падумаў, што гэта правакацыя. А дзе ж нашы? — разважаў ён. — Дзе часці Брэсцкага ўмацаванага раёна, дзе пагранічнікі і ўрэшце ж і воіны 49-ай стралковай дывізіі? То ж гэта не абы-якая сіла! Чаму не супраціўляюцца?

Яго таварышы, аднак, у адзін момант патрацілі ахвоту для пачастунку і неяк трывожна ды пытальна глядзелі на свайго начальніка. Што рабіць?

— Бяжым у горад! — загадаў Дзмітры Матвеевіч. — Пабачым, што там чуваць.

Дабеглі да высокага чырвонага касцёла. Стаяў адкрыты, у сярэдзіне таўпіліся людзі, плылі трывожныя літаніі. І яны спыніліся ў касцельным прадсенку. Палічылі, што цагляны касцёл будзе найлепшым для іх схованішчам. Людзі адступіліся. Песнаспеў на хвіліну спыніўся, але зараз жа ўзвіўся пад неба з яш-

(Працяг на стар. 8)




Не спяшайцеся з наіпыўкамі ярлыкоў. Але чым больш становіцца разводаў, тым настойлівей мы павінны шукаць дарогі і сродка для ўмацавання сям'і, скарыстоўваючы ўвесь арсенал тэлевізійных, прэсавых, прававых, духоўных і матэрыяльных магчымасцей. Дарма „Сапраўдны мужчына“ асуджвае цёплае месца пад жончынай пятой. Пасмяяцца можна з усяго, але ж не абавязкова адразу страшыць рабствам. Дарэчы, быць рабом каханай жанчыны не страшна. Сапраўднае пачуццё і робіць нас нявольнікамі гэтай усеўладнай пані — кахання. І чаму б, сапраўды, не арганізаваць клубы „Пад абцасікам“. Існуюць усялякія таварыствы — кролікаводаў і рыбакоў, аховы прыроды і могільнікаў, — дык чаму б не стварыць таварыства аховы сям'і.

Па ўсёй краіне павіны адкрыцца клубы сям'і, якія ўсебакова падымалі б прэстыж сям'і.

Цяпер у наш асвечаны век, як ніколі раней, неабходная пашырана псіхалагічная служба сям'і — псіхолагі, гэтыя кардыёлагі шлюбу, могуць засцерагчы супольнае сямейнае сэрца ад фатальнай трэшчыны, інфаркту — разводу. Можна было б абавязаць разводзячыхся мужа і жонку наведаць такую кансультацыю. Ды і суддзі, што займаюцца справамі сям'і, павінны б мець не толькі юрыдычную падрыхтоўку, але і веды з галіны сацыялогіі сям'і псіхалогіі, педагогікі, сексуалогіі і галоўнае — перакананне, што развод — гэта не выхад са становішча, а тупік, катастрофа.

**Няспешная**

## У ОРЛІ

13 лістапада г.г. адбылося пасяджэнне прэзідыума праўлення Арлянскага аддзела БГКТ. На ім быў апрацаваны план дзейнасці на бягучы культурна-асветны сезон. Намечана шырокая праграма адзначэння 30-годдзя БГКТ. Найбольшы націск пакладзены на папулярызацыю беларускай культуры. Вялікае значэнне ў гэтым мае павышэнне навучання роднай мовы ў школах, удзел моладзі і мастацкіх калектываў у аглядах і конкурсах, арганізаваных таварыствам, аўтарскія сустрэчы „белабежцаў“ і мастацкія канцэрты ў вёсках. Прыемна адзначыць, што ў Арлянскай гміне ёсць найбольш падпісчыкаў „Нівы“ на 1986 год. У бліжэйшым часе будуць арганізаваны новыя гурткі БГКТ у Пашкоўшчыне, Грыгораўцах і Вульцы Выганоўскай. Дзеля актывізацыі дзейнасці гурткоў яшчэ ў гэтым годзе адбудуцца сустрэчы актывістаў БГКТ, беларускіх літаратараў і журналістаў „Нівы“ ў многіх вёсках Арлянскай гміны.

**Я. М.**

(Працяг са стар. 6)

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

сябе ўжо назаўтра, едучы да шлюбу.

У некаторых вёсках, напрыклад, у Галадах, маладая рыхтавала для маладога не толькі кашулю і кальсоны, але таксама і шкарпэткі і рукавічкі. Дружкі ў часе торгу стараліся перадаць свату замест новых рукавічак і шкарпэтак старыя парваныя рукавіцы і шкарпэткі.

Пасля доўгага торгу і фокусінчання, маршалак у канцы канцоў атрымоўваў жаданыя рэчы. плацячы за іх найчасцей цукеркамі. Дружкі прыводзілі іх ў нармальны стан. Са свайго боку перадаваў ён маладой блузку і боцікі, якія былі падарункам ад маладога. Здараліся выпадкі, што выкупленыя маршалкам рэчы дружкі маладой выкрадалі, і тэатральныя торгі паўтараліся другі або і трэці раз.

У некаторых вёсках у часе паненскага вечара маладая сядала на прыкрытай дзежцы, і дружкі расплятаді ёй касу. Аднак у большасці вёсак гэты рытуал, званы пасадам, адбываўся ў дзень шлюбу перад выездам маладой у царкву. Таму гэты абрад схарактарызуем у іншым месцы нашага даследавання.

Паненскі вечар канчаўся глыбокай ноччу. Варта сцвердзіць, што паненскі вечар у мадыфікаванай форме захоўваўся на беларускіх вёсках да нядаўна.

**А. Баршчэўскі**

## Куток практычных ведаў

■ Падлога, пафарбаваная маслянай фарбай, набудзе прыемны бляск, калі яе мыць цёплай вадой і нашатырным спіртам (на вядро вады 3 лыжкі нашатырнага спірту і паўшклянкі воцату).

■ Калі чорная шарсцяная тканіна заільснілася, змачыце шарсцяную анучку сумессю кавы і нашатырнага спірту і старанна патрыце. Вільготную рэч прапрасуйце з левага боку.

■ Калі ў вас ламаюцца (крохкія) пазногці, нанач змазвайце іх ланалінавай маззю.




## І З-ПАД ЗЯМЛІ, І З-НАД ЗЯМЛІ

Пішу пра пятрушку звычайную (лацінская назва Petroselium sativum, pietruszka zwyczajna — па-польску, руская назва „петрушка садовая") з поўнай свядомасцю таго, што многія чытачы „Нівы", ужо прачытаўшы адну толькі назву расліны, пацiснуць плячыма і скажуць: „Ну і знайшоў „таямніцу", хто ж гэта не ведае пятрушкі?" І маюць рацыю. Цяпер кожны, у каго ёсць агародчык, вырошчвае гэтую расліну. Гэта цяпер, а як было, напрыклад, дзвесце год назад? Моцна памыляецца той, хто думае, што гэтак жа сама. Радзіма пятрушкі — усходняе пабярэжжа Міжземнага мора. У Польшчы гэтую расліну пачалі гадаваць толькі ў часы каралевы Боны і адно ў каралеўскіх агародах. На Беласточчыне пры паншчыне, значыць 150 год таму назад, пятрушку вырошчвалі толькі ў некаторых панскіх агародах. Простыя людзі гэтую расліну лічылі „панскім зеллем" і зусім не спяшаліся сеяць яе і спажываць. Яшчэ і сёння шмат якая 80—90-гадовая бабулька скажа, што ў часы яе маладосці „белай морквы" не было. Як жа ж з бегам часу змяняюцца чалавечыя звычаі!

Цяпер пятрушка займае вядучае месца сярод агароднінных прыправаў. Яе зелле ўпрыгожвае стол у кожную пару года, а карэнне — соленае. сушанае, „са склепу" і г.д. — карыстаецца попехам у кожнай гаспадыні.

Агароднікі адрозніваюць і вырошчваюць дзве разнавіднасці пятрушкі: каранёвую і лісцевую (дэкаратыўную, кучаравую). На Беласточчыне лісцевая разнавіднасць мала пашыраная, затое паўсюдна ўжываецца каранёвая. Яна вельмі ўраджайная — на ёй расце шмат спажыўнога зялёніва і, хоць вядзецца збор лісця (вядома, нельга зрываць адначасна ўсё), яшчэ абдорвае



мажным карэннем. Варта таксама ведаць, што і лісце і карэнне пятрушкі, калі яны не заліты вадою, то не баяцца марозу. Узімку можна выграбці з-пад снегу свежае зялёнае лісце ды выкапаць цалкам прыдатнае карэнне. Бо гэта двухгадовая расліна. Якраз на другі год, перазімаваўшы, пятрушка пачынае цвісці і дае насенне.

Яе прыемны пах паходзіць ад эфірных алеяў, а ў зялёніве і корані знаходзяцца розныя рэчывы (вітаміны, алеі і г.д.), якія выклікаюць апетыт, паляпшаюць страваванне, асвяжаюць і становіча ўздзейнічаюць на самаадчуванне чалавека.

Апрача кулінарных уласцівасцей, лісце, карэнне і насенне пятрушкі належыць да лякарстваў. Гэта здаўна вядомы мачагонны і ветрагонны сродак. „Рэкамендуецца яе прымаць пры хваробах мачавога пузыра, нырачных лаханак (меднічак), нырачных камянях і расстройствах страваводу, напрыклад, пры дрэнным стравaванні і ўздуцці. Знешне пятрушку прымяняюць у кампрэсах на нарывы, падскурнае кровазліццё і месцы ўкусаў насякомымі" (К. Вешхоўская-Рэнке). Хатнім спосабам можна нарыхтаваць лякарствы:

1. Напаранне з насення — паўлыжкі насення на шклянку вады, піць адну-дзве лыжкі 2-4 разы ў дзень.

2. Вывар з лісця і карэння, іх сумесі: адну лыжку пакрышанага лісця і адну лыжку пакрышанага карэння ўсыпаць у гаршчок, заліць шклянкай халоднай вады і варыць 15 мінут, адцадзіць, піць 2 разы ў дзень па адной шклянцы; пры камянях у нырках рэкамендуецца адвар толькі з лісця.

3. Зелле для кампрэсаў: свежае лісце пятрушкі пакрышыць і патаўчы ў ступцы або змалоць у машынцы да мяса, прыкладваць на хворае месца.

Пятрушка часта ўваходзіць у склад лячэбных зёлкавых сумесяў.

**Увага! Пятрушка належыць да тых раслін, якія чулыя на хімічны склад глебы; калі яе вырошчваць у агародзе ці ў полі з прымяненнем штучных угнаенняў, тады яны для лячэння амаль непрыгодная.**

**Б. Паскробка**

Мал. Д. Камінскай

(Працяг са стар. 2)

## НА МЯЖЫ

беларускай свядомасці, дык сёння не было б патрэбы пісаць аб нацыянальных справах. Аднак справы выглядаюць зусім інакш. Амаль што на пальцах рук можна палічыць тых беларусаў, якія паслядоўна, а не толькі ў газетных дыскусіях ці на сходах, у сямейных абставінах жывуць беларускім жыццём. Аб чым гэта сведчыць? Аб тым, што асвета замест таго, каб спрыяць і ўмацоўваць нацыянальную свядомасць (так як гэта ёсць ва ўсіх народаў), у нас, беларусаў, гэтую свядомасць забівае. Чаму ж мы такія страшэнныя выродкі ў гэтым свеце? І ці сапраўды вінавата тут асвета і ці вінаваты толькі мы самі?

**Алесь Барскі**

(Працяг са стар. 7)

# ПАД ТВАЮ АБАРОНУ

чэ вышэйшай сілай. „Пад тваю абарону ўцякаем мы, Пане!" — гучала ў касцеле, а Дзмітры Макараў са сваімі таварышамі таксама трывожна прыслухоўваўся да нарастаючага гулу, да ўсё магутнейшай ляскатні стальных танкавых гусеніц. І разумеў ён, што касцельны спеў не абароніць іх ужо ад фашысцкай навалы. Трэба ўцякаць, раттаваць! Толькі як, дзе?

— Вось нейкая машына! — закрычаў адзін з яго чэкістаў.

— Спыніць яе і рэквіраваць! — коратка загадаў начальнік раённага аддзялення НКВД. Шафёр штосьці паясняў, што мае іншы загад, што вельмі спяшаецца, але Дзмітры Макараў на ўсё гэта адказаў яму коратка:

— Цябе і тваю машыну рэквіруем мы для патрэб дзяржаўнай бяспекі і ад гэтай хвіліны ты выконваеш толькі мае заданні!

— Так точна, таварыш начальнік! — адрапартаваў вадзіцель.

— Ачысціць машыну! — загадаў Макараў, — звяртаючыся да сваіх падначаленых.

...А варожыя танкі ўжо гудзелі на вуліцах Высокага. Амаль даганялі групу чэкістаў Дзмітрыя Матвеевіча Макарава. І ніхто іх, гэтыя танкі, не перапыняў. Усё неяк паблыталася, пераўтварылася ў суцэльную неразбярыху.

Дзмітры Макараў, аднак, ужо аб гэтым не думаў. Спыніліся на хвіліну ў Расне, дзе знаходзілася чыгуначная станцыя. Гэта кіламетраў з пяці на поўнач ад Высокага. Там спадзяваліся пагрузіцца на нейкі цягнік, які цераз Брэст адпраўляўся на Мінск. Проста яны яшчэ не ведалі, што Брэст, апрача старой крэпасці, ад ранку ўжо знаходзіцца ў руках гітлераўцаў. Цягнікі туды не хадзілі.

І тады Дзмітры Макараў падумаў пра жонку. Недзе тут, пад Раснай, яна таксама знаходзілася разам з іншымі жанчынамі, выселенымі з Высокага. Толькі дзе яе шукаць? Дзмітры Матвеевіч трывожна пачаў азірацца па наваколлі. Шукаў кагосьці, каб папытаць.

— Дзіма! — пачуў раптам за сабою знаёмы голас. Адварнуўся і вачам не паверыў. На прызбе сялянскай хаты, схаваўшыся ў цяні ад пякучага сонца, сядзела яго жонка, Марыя Аляксандраўна.

— Што ты тут робіш? — запытаў Дзмітры Матвеевіч, быццам злавіўшы яе на нейкім злачынстве.

— Цябе чакаю, — спакойна адказала Марыя Аляксандраўна.

— Я ж мог паехаць зусім іншай дарогай.

— А я ведала, была ўпэўнена, што менавіта тут цябе сустрэну, — засмяялася жанчына, але Дзмітры Матвеевіч неяк не раздзяляў яе радасці.

— Чаму ты тут адна? Дзе іншыя? — запытаў, беручы ў рукі жончыны чамаданы.

— Іншыя або разбегліся ўжо па вёсках, або пайшлі на ўсход з нашымі воінскімі часцямі, — адказала жонка.

— Ну, добра, ладкуйся ў шафёрцы, а я палезу на кузаў, — распарадзіўся муж, і яны тут жа паімчаліся далей на ўсход. У раёне Белавежскай пушчы, недзе за Камянцом, напароліся на штаб 49-ай стралковай дывізіі. Яе камандзіра, Васільева, Дзмітры Макараў ведаў асабіста. Уцешыўся.

— Ну, брат, прымай пад сваю абарону, — заявіў начальнік раённага аддзялення НКВД. — Будзем сумесна даваць адпор ворагу.

Камандзір дывізіі, аднак, не раздзяляў энтузіязму Макарава. Меў ужо за сабою бяссонную ноч. Яго яшчэ ўчора вечарам папярэдзілі, каб чакаў спецыяльнага загаду, якога не дачакаўся. І не мог ён прызнацца Макараву, што сам добра не ведае, што яму рабіць са сваёй дывізіяй: прымаць бой ці адступаць?

А пакуль яны рашалі гэтае пытанне, тут жа паявіўся на сваёй легкавой машыне сакратар раённага камітэта партыі ў Высокім — Рабцоў Васіль Мікалаевіч. Ён загадаў па-свойму, аб чым ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

М. Бураташвілі

## ЦІНА І МУРАШЫ

Раз, два, тры...
Як ні старайся,
Не злічыць іх, не звярнуць.
А куды ж яны, цікава,
Так спяшаюцца, бягуць?

Што за пільная патрэба
Сёння ў гэтых малышоў?
Хто падняў, як па трывозе,
Раць руплівых мурашоў?

Кожны, пэўна, клопат мае.
Важкі клопат у малых:
Ноша гэткая ж цяжкая, —
Як падняць, —
На спіне ў іх!

Раз, два, тры...
Як ні старайся,
Не злічыць іх, не звярнуць!
А куды ж яны, цікава,
Так спяшаюцца, бягуць?

„Гэты кволенькі мурашык,
Хоць малы, а працаўнік..."
Ціна думае ў здзіўленні —
І настрой ранейшы знік.

„А мяне бабуля ўранку,
Як устала з-за стала,
Папрасіла: „Памажы мне..."
Хіба ж я ёй памагла?!

Я заўжды адно бурчу:
„Я не ўмею, не хачу!.."

Гэты вось мураш дужэйшы,
Большы хіба за мяне?
А якую ношу цягне
І калі перадыхне?!"

Стала сорамна дзяўчынцы,
Што ляніўкаю была.
Да свайго двара, да дому
Паляцела, як страла!

Каб хто ўбачыў,
Падзівіўся б,
Запытаў бы раптам той:
„Гэта Ціна ці не Ціна?
Не пазнаць ніяк малой!.."

Завіхалася дзяўчынка,
Шчыравала, як магла:
Да пясчынкі,
Да пылінкі
Кухню, ганак падмяла!

Да бабулі зноў падсела —
Добра з ёй пашчабятаць!
— Буду я табе заўсёды,
Кожны дзень дапамагаць!

Усміхнулася бабуля:
— Буду вельмі рада я.
Дай у вочкі пацалую,
Пчолка рупная мая!

Пераклаў з грузінскай мовы
Мікола Чарняўскі



Валянцін Лукша

## ЧАМУ ЗАЯЦ КАСАЛАПЫ

На хутары
За гарой
Жылі стары са старой.
Сорак зім
І сорак летаў
Не было ў іх дзетак.
І ад лета
Да зімы
Сум гасціў у гарамык.
Раз, каб бавіць час,
Наш дзед
Ішоў з сілом праверыць след,
Як заўжды на золку раннім
У бары на паляванні.

І вось зайца дзед злавіў.
Нібыта сына прытуліў,
Абагрэў яго, вядома,
Да старой панёс дадому.
— Хай жыве, —
Старая кажа. —
Мо сагрэе старасць нашу,
Адзінокае жыццё...
Будзе зай нам, як дзіцё!..

Зай на ўслончыку сядзеў,
Зай на вуліцу глядзеў.
Пагуляць зай папрасіўся.
Дзед падумаў, пагадзіўся.
Даў абутак свой стары:
— Не загульвайся ў бары!..

Час мінуў.
І кліча дзед:
— Зай, спяшайся на абед!
Ну, а шэры
Ў цёмны бор
Паімчаўся, як віхор.

За жывое дзед крануты:
Ўслед крычыць:
„Вярні абутак!
Ён паношаны, стаптаны,
І не да твайго каптана...
Ён пакрывіць табе ногі,
Будзеш блытаць ты дарогі..."

Дзед са зла бяду наклікаў, —
След крывы ў зайцоў, вялікі,
Быццам бы усе яны
Зая дочкі і сыны.
Круцяць петлі так старанна!
У абутку растаптаным.



На ўроку беларускай мовы ў чацвертым класе школы № 3 ў Бельску. Фота Я. Чэрнякевіч.

ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Ул. Разумневіч

## „САЛОДКАЕ" ЖЫЦЦЕ

— У цябе кішэні разапханыя, — заўважыў Казік, калі яны з Цімкам сядалі за стол абедаць. — Што там?

Цімка прыклаў палец да губоў:

— Цішэй. Пані пачуе. — І паглядзеў па баках, дзе сядзелі іншыя дзеці. — Што ў мяне ёсць... З хаты прынёс. Хочаш, пачастую...

Цімка выняў з кішэні жменю цукеркаў і падаў Казіку. Потым палез па новую порцыю — для сябе.

Абодва яны смакталі салодкія цукеркі і прычмоквалі ад прыемнасці.

— Толькі неразумныя дзеці перад абедам ядуць салодкае, — з папрокам сказала ім, праходзячы побач, кірпатая дзяўчынка Галя.

— Мы не ямо, — паправіў Казік. — Мы смокчам.

— Апетыт сабе псуеце.

— Апетыт не псуем, — зноў сказаў Казік.

І яны пачалі есці боршч.

Цімка зморшчыўся:

— Зусім салодкі. Такога баршчу не бывае.

— І ў мяне салодкі, — здзівіўся Казік. — Гэта, мабыць, таму, што ў нас цукеркі за шчокамі. Салодкія цукеркі — смачна. А салодкі боршч — не.

Сябры адсунулі талеркі. Цімка выграб з кішэні на стол сваё салодкае багацце. Цукеркі былі падобныя на ледзянцы. Іх можна было смактаць колькі хочаш — не прастудзішся. Смакталі і тады, калі трэба было есці боршч. Смакталі і тады, калі ім падалі катлеты.

„Салодкае" жыццё працягвалася ў іх і пасля абеду, пакуль не скончыліся цукеркі.

І тут Цімка схапіўся за шчаку.

— Зубы баляць.

— І ў мяне таксама. І жывот баліць, — паскардзіўся Казік. — Так і смокча. Так і смокча.

— Гэта мы цукеркі смакталі, — сказаў Цімка. — А цяпер яны нас... Есці хочацца. Сто талерак баршчу з'еў бы...

— А я дзвесце з'еў бы... — уздыхнуў Казік і аблізнуўся. На губах абодва адчулі горкі смак салодкіх цукеркаў.

Але да вячэры было далёка.

Станіслаў Шушкевіч

## АДКРЫЎ СВЯТЛО

Напісаў камар буквар
І звініць на ўвесь абшар:
— Гэта ў ім ад „А" да „Я"
Буква кожная мая.

Я для ўсіх святло адкрыў.
Каб не я, дык камары,
Мошкі, пчолы і чмялі
Непісьменнымі б былі.

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Piątek 6 XII** — 8.10 Geogr. kl. VI. 9.00 Wokół nas kl. III. 9.30—12.00 Domator. 9.35 Domowe przedszkole. 10.00 DT. 10.10 Film dla II zmiany: „Powstańcza opowieść" (7) „Na śmierć i życie". 11.30 Tylko dla ciebie. 12.00 J. pol. kl. VIII. 13.30 TTR — s. I Biol. 14.00 TTR — s. I. Fiz. 14.30 Kurs Rolniczy. 14.50 Wokół nas kl. III. 15.25 W szkole i w domu. 15.55 Nurt. 16.25 Program dnia + DT. 16.30 Majsterklepka. 16.55 Piątek z Pankracym. 17.20 DT. 16.30 Tu, w tym samym miejscu. 18.00 Bez próby. 19.00 Dobranoc. 19.10 Studium. 19.30 Dziennik. 20.00 Monitor Rządowy. 20.30 Powstańcza opowieść „Na śmierć i życie" (7) — serial czeski. 21.50 DT. 22.20 Kontakty. 22.50 Jazz Jamboree 85 — String Connection. 23.25 DT.

**Sobota 7 XII** — 7.25 TTR — s. III Fiz. 7.55 TTR — s. III Biol. 8.25 Program dnia. 8.30 Tydzień na działce. 9.00 Sobótka oraz film z serii „Domek na prerii". 10.30 DT. 10.40 Szczeciński Lodogryf 85 (1). 11.00 W świecie ciszy. 11.30 Estrada folkloru. 11.45 Lista Przebojów. 12.00 Koncert Życzeń. 12.30 Siedem Anten. 13.15 Szczeciński Lodogryf (2). 13.30 Za kierownicą. 14.00 Konto „M". 14.30 Azymut. 15.00 DT. 15.05 Antologia Dramatu Powszechnego August Strinberg „Eryk XIV". 17.10 Los. D. Lotka i Zakładów Spec. 17.25 Sport. 18.10 Szczeciński Lodogryf 85 (3). 18.25 Uniwersytet Mikołaja Kopernika. 19.00 Dobranoc. 19.10 Z kamerą wśród zwierząt. 19.30 Dziennik. 20.00 Poślubiłem dziewczynę z fotografii — ang. film obycz. 21.30 Czas. 22.00 Szczeciński Lodogryf 85 (4). 22.20 DT. 22.25 Wiadomości Sportowe. 22.45 Pocieszanki Andrzeja Rybińskiego. 23.20 Marzenie o wielkiej forsie — film RFN.

**Niedziela 8 XII** — 8.25 Wszechnica rodziny wiejskiej. 7.50 Po gospodarsku. 8.15 Program dnia. 8.20 Tydzień. 9.00 Teleranek oraz film z serii „Gazda z Diabelnej". 10.30 DT. 10.35 Afryka (4) — ang. serial dok. 11.35 Profesor Kaliski — rep. film. 12.05 „Ułamek sekundy" (2) — włoski serial obycz. 12.55 Klub sześciu kontynentów. 13.40 Informator Wydawniczy. 14.35 Kraj za miastem. 15.00 DT. 15.05 Teatr dla dzieci S. Michałkow „Zając Chwalipięta". 16.00 Studio 1. 18.20 Antena. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.00 Pan na Żuławach (3) — pol. serial film. 21.15 Pegaz. 21.55 Sportowa Niedziela. 22.30 Koncert galowy z okazji 40-lecia kinematografii polskiej. 23.30 DT.

**Poniedziałek 9 XII** — 13.30 TTR — s. I Mat. 14.00 TTR — s. I J. pol. 15.55 Nurt. 16.55 Program dnia + DT. 16.30 Stowarzyszenie myślących. 16.55 Ogrody zoologiczne świata — Nue Delhi. 17.20 DT. 17.30 Stawka większa niż życie (15) „Oblężenie". 18.30 Echa stadionów. 19.00 Dobranoc. 19.10 Laboratorium. 19.30 Dziennik. 20.·0 Publicystyka. 20.15 Teatr TV na świecie — A. Shaffer „Detektyw". 22.40 DT. 23.00 J. niem. (8).

**Wtorek 10 XII** — 8.10 Fiz. kl. VIII. 9.00 Plast. kl. VIII. 9.30—12.00 Domator. 9.35 Domowe przedszkole. 12.00 Wiedza o społeczeństwie kl. VII. 12.50 J. pol. kl. IV. 13.30 TTR — s. III J. pol. 10.00 DT. 10.10 Film dla II zmiany „Bel ami" (2) prod. franc. 11.35 Bądź piękną. 11.40 Europejskie Parki Narodowej „Szwecja" (2) — film prod. RFN. 14.00 TTR — s. III Mat. 14.30 Kurs rolniczy. 14.50 Plast. kl. III. 16.25 Program dnia + DT. 16.30 Tylko dla orląt. 16.55 Fasola. 17.20 DT. 17.30 Gazeta Rolnicza. 18.00 Informator Wydawniczy. 18.35 Ostatni humanista czy Don Kichot — film o prof. Julianie Aleksandrowiczu. 19.00 Dobranoc. 19.10 Diagnoza. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 „Bel ami" (2). 21.40 DT. 22.00 Spór o gospodarkę. 22.45 DT. 22.50 Język ang.

**Środa 11 XII** — 8.10 Geogr. kl. V. 9.00 Muz. kl. I. 9.30—12.00 Domator. 9.30 Domowe przedszkole. 10.00 DT. 10.10 Zapiski milionera — film prod. egipskiej. 12.00 J. pol. kl. VI. 12.30 Chem. kl. VII. 13.30 TTR — s. I Upr. rośl. 14.00 TTR — s. I Hod. zwierz. 14.30 Kurs Rolniczy. 14.50 Muz. kl. I. 15.55 Nurt. 16.25 Program dnia + DT. 16.30 Tik-Tak. 16.55 III runda Pucharu UEFA. ok. 17.45 Los. Ex. Lotka i M. Lotka. 19.00 Dobranoc. 19.10 Archiwum XX wieku. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 Zapiski milionera — film egips. 22.05 DT. 22.25 Trybuna Sejmowa. 23.10 DT. 23.15 J. ros. (8).

**Czwartek 12 XII** — 8.10 Hist. kl. VI. 9.00 Praca-Tech. kl. II. 9.30 Domator. 9.35 Domowe przedszkole. 10.00 DT. 10.10 Milczące akta — węg. film sensac. 11.40 Apteczka domowa. 11.50 Historia najbliższa. 12.00 Biol. kl. VIII. 12.50 J. pol. kl. I lic. 13.30 TT R— s. III Mech. rol. 14.00 TTR — s. III Hod. zwierz. 14.30 Kurs Rolniczy. 14.50 Praca-Techn. kl. II. 16.25 Pr. dnia + DT. 16.30 Magazyn szkolny oraz film z serii „Był sobie człowiek" (15). 17.20 DT. 17.30 Mieszkać. 17.50 Witryna. 18.05 Krzyż Grunwaldu dla harcerzy — wojsk. pr. hist. 18.30 Sonda. 19.00 Dobranoc. 19.10 Moja filozofia. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 Teatr Sensacji W. Łysiak „Selekcja". 21.45 DT. 22.05 Klub Międzynarodowy. 23.05 DT. 23.10 J. franc. (3).

## КІНО

**Bielsk Podl.** Pismak — pol. 9. Werdykt — USA 10—13, Kim jest ten człowiek — pol. 14—15.

**Czeremcha** Szpital Britania — ang. 11. Ucieczka z Alcatraz — USA, 14—15.

**Czyże** Zbyt późne popołudnie — czes. Europejska historia — radz. 11—15.

**Hajnówka** Nie było słońca tej wiosny — pol. 9—11. Spokojnie to tylko awaria — USA 12—17.

**Michałowo** Vabank II — pol. 10—15.

**Mielnik** Policjantka — fr. 11—12. Ręce do góry — pol. 14—15.

**Milejczyce** To tylko rok — pol. Katapulta — czes. 11—15.

**Orla** Prom do Szwecji — pol. 11—15.

**Nurzec** 56 godzin na wagarach — czes. 11. Wiosna panie sierżancie — pol. 12—13. Saint Jack — USA 14—15.

**Rajsk** Zaczęło się w czerwcu — radz. Radykalne cięcie — czes. 11—15.

## ШТО-ДЗЕ-КАЛІ

### ПА ЎХАБІСТЫМ БРУКУ

З Міхалова можна даехаць па роўных дарогах у Беласток, Гайнаўку, Ялоўку. Найгорш аднак ехаць па галоўнай вуліцы спамянутага мястэчка. Не толькі веласіпедам або матацыклам. Нават калі хто едзе „малюхам", то да таго трасе па выбоінах, што зуб на зуб не трапляе.

Ёсць яшчэ іншая небяспека — гэта масток над рачулкай Супрасло. Брук тут абсеў і ажно масток тырчыць угары. Ёсць яшчэ круты паварот...

Гмінныя ўлады пра гэта ведаюць, але ці захочуць што-небудзь зрабіць, каб лепш было ездзіць...

На маю думку: калі не стае грошай на асфальтаванае палатно, дык неабходна задумацца над рамонтам найбольш ухабістых адрэзкаў бруку.

У суседняй гміне патрапілі. Варта туды заглянуць, каб бліжэй даведацца, як будаваць і рамантаваць дарогі. Ды не толькі ў мястэчку, але і пушчанскія вёскі не заўсёды праездныя. Нараўчанскі начальнік не адмовіць і ахвотна падзеліцца вопытам.

Рамонту пралётнай вуліцы ў Міхалове з нецярплівасцю чакаюць усе вадзіцелі аўтамашын. Асабліва меншых. А матацыклісты, а веласіпедысты!.. Ды й што больш можна сказаць. Неабходна шукаць нейкага выхаду. Даволі ламаць рэсоры. Падаткі і то немалыя, кожны год плацяць усе зматарызаваныя.

Цікава, чаго можна спадзявацца ў адказ на нашу крытыку ад беластоцкага Раёна публічных дарог. З адказам ахвотна пазнаёмім усіх зацікаўленых гэтай справай чытачоў. **(яц)**




### „ПУДЛА"

Як вярнецца жонка з працы,
„Пудла" пачынае йграць.
„Пудла" — тэлевізар, значыць,
Так пачаў я празываць.

Сеў выгодна каментатар,
Пачынае гаварыць.
Ён гаворыць, маўчыць жонка,
Давялося мне маўчаць.

Што ж, відаць, ён цікавейшы,
Нецікавы стаўся я.

Жонка мужа добра знае,
Вось у гэтым і бяда.

А каб гэта ж змяніць жонку,
Або „пудла" папсаваць?
Нават жонцы ад пачатку
Усё жыццё б мог расказаць.

Жонку мне змяніць не ўдасца,
З жонкай я пражыў гады,
„Пудла" новае закупяць.
Не пазбаўлюся бяды.

Быў заўсёды аптымістам,
Нос на квінту не спускаў,
Выйграла і гэту „бітву" —
Хоць дзень цэлы прамаўчаў.

**Рышард Бутайла**

(Працяг са стар. 3)

### ДЫЯЛОГ АБ КАНЦЫ СВЕТУ

нясе гэта карысць? Калі гаварыць аб знішчэнні жыцця на Зямлі, можна выказаць погляд, што не ўсё жыццё на Зямлі згіне. Заўсёды недзе далей ад цэнтра застануцца людзі. А калі дапусцім, што на нейкім кантыненце застанецца некалькі хаця б пар людзей, з іх народзяцца зноў сем'і, народы і г.д. Здаецца нам, што калі нешта нас датычыць, гэта звязана з усім людскім родам і цэлым светам. Ваш канец свету, дарагія жанчыны, звязаны са страшнай вайной на Зямлі. Ці мусіць яна быць? Раней яе лічылі як нешта неабходнае. Так, мела яна, між іншым, ратаваць людзей ад голаду. Цяпер разумеем інакш. Не галадаюць там, дзе шмат людзей, а наадварот, там дзе іх мала прыпадае на 1 квадратны кіламетр, прычым маюць яны натуральныя багацці, якіх іншыя не маюць. Але гэта ўжо іншая справа, не маючая нічога супольнага з Бібліяй ці Святым Пісаннем. Можа толькі з адной запаведдзю: „Не крадзі! Не забірай ад другога, што не тваё!"

„Дзякую вам, дарагія жанчыны, што мяне наведалі, — сказаў ветліва і цёпла гаспадар, — і веру ў тое, што людзі не дапусцяць да страшэннай вайны. Усё ў людскіх руках, у іхнім розуме. І мушу сказаць, што ніколі народы не былі так салідарны, не прадстаўлялі гэткай магутнай сілы супраць вайны, за мір на свеце, як цяпер. Гэта знакі нашага часу. І выбачайце, — дадаў на адыходным, — вы ў карце, ну, у глобусе разбіраецеся?" „Не, — крыху з сорамам у голасе адказалі жанчыны, — мы толькі Біблію ведаем".

— Так, гэта добра, — сказаў ён, — але крыху мала.

**Рышард Бутайла**

### МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5018-24325-151-6787.

Паведамляем таксама, што цэнтры збірання экспанатаў для музея знаходзяцца ў наступных месцах:

у Пачатковай школе ў Рыбаках, гміна Міхалова,
у будынку былога ПЗГС у Гайнаўцы,
у клубе БГКТ у Бельску, вуліца Міцкевіча 50/54,
у клубе БГКТ у Гайнаўцы, вуліца Вызвалення 6,
у Гмінным камітэце ПАРП у Мілейчыцах,
у Саколцы, вуліца Варынскага 1,
у ГП БГКТ у Беластоку, вуліца Варшаўская 11.

Чакаем экспанатаў або інфармацыі аб месцы іх знаходжання.

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej i Ruchu Rewolucyjnego, 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6. Тэлефон 28-89.**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ

**Нарэшце (у Дубяжыне) цёпла і ўтульна ● Пішыце пра жыццё, пра смерць і пра любоў ● Шляхам гадоў — перамога ● Сярэдні амерыканец — хто ён? ● Пленум Сямяцкага аддзела БГКТ ● Беларускі том „Літаратурных актаў, польска-усходнеславянскіх даследаванняў" ● Скачок у невядомае ● Сардэчныя тайны ● У карысць Кнаразоў ● Таямніцы волькі ● Рэпатрыянты ● „Зорка" ● Што-дзе-калі ● Гумар**

## — КАЛЯНДАР —

**355 гадоў назад**
17.12.1630 пам. М. Сматрыцкі, беларускі і украінскі царкоўны і грамадска-палітычны дзеяч, пісьменнік.

**215 гадоў назад**
16.12.1770 нар. А. ван Бетховен, нямецкі кампазітар.

**60 гадоў назад**
20.12.1925 нар. І. Шуцько, беларускі пісьменнік.

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Кожны свой розум пробуе.

*

Не меў розуму з роду, не будзе і да гробу.

*

Сляпы чалавек усюды прапаў


# Ніва

**ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА**

**Галоўны рэдактар**
**Георгій Валкавыцкі**
**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**„Niwa"**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok skr. poczt. 149**
**tel. 232-41**

Wydawca Białostockie Wydawnictwo Prasowe. 15-950 Białystok, ul Wesołowskiego 1. Druk Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku. Cena prenumeraty kwart. 104 zł: półr. 208 zł: rocznej 416 zł.

**WARUNKI PRENUMERATY:**

1. dla osób prawnych — instytucji i zakładów pracy:
   - instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miastach wojewódzkich i pozostałych miastach w których znajduje się siedziba Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" zamawiają prenumeratę w tych Oddziałach:
   - instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" i na terenach wiejskich opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli:
2. dla osób fizycznych — indywidualnych prenumeratorów:
   - osoby fizyczne zamieszkałe na wsi i w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli.
   - osoby fizyczne zamieszkałe w miastach — siedzibach oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę wyłacznie w urzędach pocztowych nadawczo-oddawczych właściwych dla miejsc zamieszkania prenumeratora. Wpłaty dokonują używając „blankietu wpłaty" na rachunek miejscowego Oddziału RSW „Prasa-Książka-Ruch".
3. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 23. 00-953 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie Nr 1153-201045-139-11. Prenumerata ze zleceniem wysyłki za granicę pocztą zwykłą jest droższa od prenumeraty krajowej o 50 proc. dla zleceniodawców indywidualnych i o 100 proc dla zlecających instytucji i zakładów pracy.

Termin przyjmowania prenumeraty na kraj i za granicę
- do dnia 10 listopada na I kwartał, I półrocze roku następnego oraz cały rok następny.
- do dnia 1 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty roku bieżącego

Zam 954/85 r. Nakład 5.000. G-3.

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

### ЛЯВОНІХА

**Беларуская народная песня**

А Лявоніху Лявон палюбіў,
Лявонісе чаравічкі купіў.
Лявоніха, душа ласкавая,
Чаравічкамі палясківала.

А Лявоніха не жонка была
Нямытую мне кашульку дала,
Нямытую, некачаную,
У суседа пазычаную.

Як я малада ў матулькі жыла,
Як вішанька ў садочку цвіла.
Цвіла, цвіла да пацвітывала,
З малайцамі ды пагулівала.

Ой, згубіла мяне мамачка мая,
Што за цябе мяне замуж аддала.
Ой, чаму ж цябе пярун не забіў,
Як ты мяне маладзеньку любіў.

А Лявоніха, Лявоніха мая!
Няхай цябе любіць чорт, ды ні я,
А дзе ж тыя кавалёчкі жывуць,
Што новыя тапарочкі куюць?

Куюць, куюць ды падварываюць,
Нашых дзевачак падманываюць.
Куюць, куюць ды падварываюць,
Нашых дзевачак падманываюць.

**З чаго смяюцца суседзі.**



— Мадэрнава запальнічка!



### СУПАКОІЎ

Старая просіць гандляра:

— Зважце мне дзесяць кіло мукі... Адно не ведаю — ці занясу я?

— Нічога, бабка, бяры дзесяць кіло: я табе гэтак зважу, што зусім лёгка занясеш, — супакоіў яе гандляр.

### ПАЧАКАЙ

Адзін задрыпанец скардзіцца другому:

— Мая жонка абсалютна мяне не разумее. А твая?

— Не ведаю. Мы з ёй яшчэ ні разу не гаварылі аб табе.

### ПРЫКМЕТА

Малады чалавек гаворыць дзяўчыне:

— Паглянь — зорка ўпала! А ты ведаеш, што калі пры гэтым загадаць жаданне, дык яно споўніцца.

— Ведаю, але не веру...

— Чаму?

— Таму, што ты вельмі нясмелы.

### ДАРМА

Малады салдат піша дадому:

„Дарагая мамачка, ты дарма страціла дваццаць год на тое, каб навучыць мяне ўставаць раніцай, адзявацца, чысціць зубы, снедаць і рана ісці спаць. Тут, у арміі, усяму гэтаму мяне навучылі ўсяго за два дні".

**У асабістым жыцці ён іграе чужую ролю.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

**Гутарка ў заамагазіне:**

**— У вас не знойдзецца маленькай акулы?**

**— Навошта вам яна? — здзіўляецца прадаўшчык.**

**— Хачу ўрэшце правучыць свайго ката: сёння ён у пяты раз зжор рыбак у акварыуме!**

*

Нінэт скардзіцца сваёй сяброўцы:

— Разводжуся...

— Гэтак хутка? І чаму?

— Ай, ведаеш, мой стары мільянер, за якога я была выйшла, аказаўся на дзесяць гадоў маладзей, чым гаварыў.

*

Банкір пры знаёмстве прызнаўся артысту:

— На жаль, ужо год пятнаццаць я не быў у тэатры!

— Прызнанне за прызнанне: на жаль, ужо год пятнаццаць, як я не быў у банку!

## МІНІВЕРШЫ

### Б'ЕЦЦА ПОСУД

— Пабіла шклянку?
Вось нязгрэба!
Ці ж так трымаць
шклапосуд трэба? —
Мальвіна на дачку злуецца.
Ды тут сама ўпусціла вазу.
Змяніла маці тон адразу:
— Глядзі, на шчасце
посуд б'ецца!

**Віктар Рэчыц**

### З „Весніка Задрыпоніі"

### ВАМ, МОДНІКІ і МОДНІЦЫ

Кожнаму грыбніку добра знаёма замшавая паверхня шляпак махавікоў і падбярозавікаў, белых і падасінавых. „Ці нельга скарыстаць гэты матэрыял у гаспадарцы?" — падумалі працаўнікі швейнай фабрыкі № 12. Іх эксперымент увянчаўся поспехам: хутка ў магазінах „Задрынмода" паявяцца першыя вырабы з „грыбнай" замшы.

### ДАЗВОЛЬЦЕ СПЫТАЦЬ?

У хлопца галава на плячах. То навошта яму шыя?





**— Я пакараў яго за тое, што ён зусім не дапамагае табе па гаспадарцы.**



**— Можа, табе ўсё-такі схадзіць да зубнога?**

## Курёзы

### ГРАХІ ВАЖНЕЙШЫЯ ЦІ ГРЭШНІК?

Па сведчанню агенцтва Асашыэйтэд прэс міністр юстыцыі ЗША Э. Міз ужо двойчы павінен быць арыштаваны за парушэнне правілаў дарожнага руху і ўхіленне ад правасуддзя, ва ўсялякім выпадку пракуратура Лос-Анджэлеса двойчы выдавала ордэр на яго арышт. Пакуль што ён толькі адбіўся штрафам у... 10 долараў, які наклалі на Міза пяць гадоў назад.

Чаму такі малы штраф? Таму што аштрафаваны чалавек — надта вялікі начальнік.

### О, НЕ КУКУЙ, ЗЯЗЮЛЕНЬКА, РАНА...

Нястомна па гарадах і вёсках Задрыпоніі, робячы добрыя зборы і раздаючы апошнія рэшткі невуцтва, ездзіць шасцідзесяцігадовы Зязюлевіч, дэманструючы сябе жывым і здаровым. Няглядзячы на тое, што, сказана ў афішах, зязюля кукавала яму толькі трынаццаць.

### З НАТАТАК ДОКТАРА ЗНАХАРУКА

„У час абеду хворы страціў прытомнасць, але са сталоўкі не выйшаў, пакуль не выпіў кампот".




**Вельмі цяжка верыць чалавеку, які гаворыць праўду, калі вы на яго месцы напэўна б схлусілі.**